# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 3[illegible]671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 36 (1738) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 3 ВЕРАСНЯ 1989 г. Цана 80 зл.




*„Васілёчкі“ з Бельска...*

РЭХА БЕЛАРУСКАГА СВЯТА

## „ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ, СТАРОНКУ ГЭТУ...“

Вялікім дасягненнем у дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы лічу беларускія святы, якія ў апошнія гады з паўсюднага святкавання па вёсках і мястэчках пашырыліся і на Беласток — як бы не было, беларускую метраполію ў Польшчы. Што святы гэтыя патрэбныя тут і заўсёды знойдуць свайго гледача, пераконвае не толькі штогадовая фрэквенцыя на іх, але і вынікі апошніх выбараў у Сейм і Сенат ПНР, у якіх беларусы прадставіліся як значная сіла, якой нельга не заўважаць і з якой немагчыма не лічыцца.

Цешыць нас факт, што пра нашы святы ўжо чуваць у свеце, а Беласток павалі становіцца месцам міжнародных сустрэч, а фактычна — сустрэч беларусаў, якіх лёс закінуў у розныя куткі свету.

З тых „найдалейшых“ беларусаў пачатак зрабіў сёлета танцавальны калектыў „Васілёк“ з Нью-Йорка, пад мастацкім кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана. Яго прыезд быў нязвыклай падзеяй не толькі для гэтых дваццаці амерыканска-беларускіх юнакоў і дзяўчат, якія амаль усе ўпершыню ступілі на зямлю сваіх бацькоў, на тую зямлю, адкуль іх карэнні, але і для мясцовых беларусаў, якія з велізарным зацікаўленнем і апляўзам сустрэлі „Васілёк“.

Прыехалі на свята таксама і „бліжэйшыя“ беларусы: менавіта калектыў „Лявоны“ з Воранава, што знаходзіцца каля Ліды ў Гродзенскай вобласці. Здавалася б, недалёка, а ўсё ж з заграніцы! „Лявоны“ прыехалі, каб ужо трэці раз прадэманстраваць сваё прафесіянальнае майстэрства (хаця яны ўсяго толькі аматары) на Беласточчыне і, як заўсёды, захапілі нашу публіку.

Перад сваім выступленнем у амфітэатры, Ала Орса-Рамана сказала: „Мы там, у Амерыцы, таксама спяваем, танцуем, вывучаем песні, фальклор“. І вельмі прыемна, што ў гэтых адносінах Беласточчына становіцца як бы прыкладам для многіх іншых, якія хацелі б не забываць аб тым, што яны — беларусы, і культываваць беларускія традыцыі. Прыкладам, на які можна і трэба раўняцца.

Праўда, толькі ў якасці гледачоў прыехалі на свята і дзесяць асоб з гродзенскай „Паходні“, запрошаныя нашай моладдзю з Беларускага аб'яднання студэнтаў. Нагода была дасканалая, тым больш, што вечарам гэтага ж дня, 25 чэрвеня 1989 г., студэнты арганізоўвалі сваё Купалле над ракой Супрасль у старажытным горадзе Супраслі.

Аднак жа касцяком праграмы святкавання было выступленне

(Працяг на стар. 6)



*...і „Васілёк“ з Нью-Йорка.*

## У СЕЙМЕ АБ МЕНШАСЦЯХ

*2 жніўня г.г. Сейм стварыў камісію нацыянальных і этнічных меншасцяў. Стварэнне гэтай камісіі (а арганізавана 21 камісія) выклікала гарачую дыскусію. Пачаў яе пасол Яцэк Амбразяк, які ад імя Грамадзянскага парламенцкага клуба „Салідарнасць“ (ОКП) прапанаваў не ўключаць у камісію справы рэлігійных меншасцяў. З яго выступленнем палемізаваў пасол з Беласточчыны Яўген Чыквін, які ва ўступе заявіў, што ён, як праваслаўны беларус, не згаджаецца з пунктам гледжання ОКП. Ніжэй друкуем поўны тэкст выступлення пасла Яўгена Чыквіна.*

*

Ва ўнесенай Прэзідыумам Сейма прапанове наконт стварэння камісій была таксама камісія па справах меншасцяў.

Па гадах замоўчвання, па дзесяцігоддзях фармавання міфа аб этнічна суцэльнай дзяржаве маем урэшце шанц прыступіць да абмеркавання і ўрэгулявання спраў людзей, якія з увагі на сваю нацыянальнасць або веравызнанне знаходзяцца ў ліку так званых меншасцяў.

Для пражываючых у Польшчы беларусаў, украінцаў, літоўцаў, немцаў, яўрэяў, татараў, армян і іншых нацыянальных груп факт стварэння ў Сейме спецыяльнай камісіі дае надзею, што нашы турботы за захаванне ўласнай рэлігійнай і нацыянальнай тоеснасці, за нашу духоўную і матэрыяльную культуру, за школы і храмы, за нашу годнасць знойдуць належную ўвагу найвышэйшага органа ўлады ў нашай дзяржаве.

У сувязі з дэмакратызацыяй грамадскага жыцця наглядаем большае зацікаўленне, а разам з тым і праблескі аўтэнтычнай талерантнасці для іншых культур і веравызнанняў.

Хачу аднак падкрэсліць, што нават добразычлівага зацікаўлення замала, каб стварыць гэтым асяроддзям неабходныя ўмовы жыцця і развіцця. Натуральна, справа тут не ў стварэнні спецыяльных умоў ці прывілеяў. Меншасцям патрэбна перш за ўсё нармальнасць. Нармальнасць, якая ўчыніць беспрадметным запіс у 81 артыкуле Канстытуцыі, які забараняе распаўсюджваць пачуцці нянавісці і пагарды, выклікаць разлад і прыніжаць чалавека з увагі на розніцу веравызнанняў ці пераканнняў.

Таксама важнай задачай для новастворанай камісіі будзе нагляд за выкананнем канстытуцыйнай нормы адносна немагчы-

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)

## — СЕЙМЕ АБ МЕНШАСЦЯХ

масці карыстання з дадатковых правоў ці прывілеяў у сувязі з прыналежнасцю грамадзян да акрэсленай нацыянальнасці, расы ці веравызнання.

Згодна з гэтай нормай і з канстытуцыйнай гарантыяй роўнасці грамадзянскіх праў, нягледзячы на веравызнанне ці перакананні, меншасныя асяроддзі павінны мець права на доступ да сродкаў масавай інфармацыі, права на свабодныя ад працы дні ў час сваіх рэлігійных свят, права на ўжыванне сваёй роднай мовы ва ўстановах на тэрыторыі, дзе пражываюць нацыянальныя меншасці, права на двухмоўныя назвы населеных ад вякоў меншасцямі мясцовасцей, права свабодна аб'ядноўвацца.

Я свядомы, што ўвядзенне сапраўднай цалкавітай роўнасці, хаця б з увагі на факт, што толькі 2 працэнты насельніцтва краіны прыналежыць да нацыянальных меншасцяў, будзе цяжкае, а часам нават немагчымае. Аднак гэтыя цяжкасці не могуць адсоўваць у бясконцасць заканадаўчыя развязкі і выпрацоўванне на практыцы штодзённага жыцця канстытуцыйных нормаў грамадскай роўнасці.

Сейм IX склікання, прымаючы ў маі г.г. рашэнне „Аб гарантыі свабоды сумлення і веравызнання“, учыніў важны крок на гэтым шляху. Уступаючы ўрад аб'явіў тады, што пасля прыняцця пастановы „Аб адносінах дзяржавы да Каталіцкага касцёла“ падобныя рашэнні адносна іншых касцёлаў можна будзе, пасля супольнай распрацоўкі, уносіць на пасяджэнне Сейма. Думаю, што новы ўрад падтрымае гэтую дэкларацыю. Для праваслаўнай грамадскасці, прадстаўнікам якой я з'яўляюся, гэтае пытанне мае вельмі важнае значэнне таму, што нашу Царкву, якая ў міжваенны перыяд моцна праследавалася, абавязвае, хаця зараз не да канца яна выконваецца, рэпрэсіўная пастанова з 1939 года.

Лёс меншасцяў толькі ў нейкай ступені залежыць ад іх саміх. Таксама ў нейкай ступені залежыць ад дзяржаўнага ладу і абавязваючага ў ім прававога парадку. Рашаючае значэнне мае тут пастава большасці. Я праваслаўны беларус і даскanaла спазнаў усе сітуацыі і складанасць умоў жыцця меншасці.

Ад імя маіх выбаршчыкаў, жыхароў Беластоцкага ваяводства, выказваю надзею, што пераўтварэнні ў нашай краіне, яе новыя ўстановы — Прэзідэнт, Сенат, а перш за ўсё Сейм створаць варункі для годнага жыцця ўсіх меншасцяў, створаць нармальныя ўмовы для іх жыцця. Спадзяюся, што новастваараная камісія ўчыніць аб'ектам зацікаўлення, згодна з 27 артыкулам Дэкларацыі Правоў Чалавека і Грамадзяніна, не толькі справы нацыянальных меншасцяў, але і рэлігійных. І тут рашуча выказваюся за першым варыянтам камісіі. Тады яна будзе весці сваю працу і прымаць рашэнні ў духу ўзаемнай пашаны і талерантнасці, будзе добра служыць пражываючым у нашым супольным доме меншасцям, служыць нашай супольнай айчыне — Польшчы.

**Яўген Чыквін**

## „ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ, СТАРОНКУ ГЭТУ...“

(Працяг са стар. 1)

мясцовых беларускіх калектываў, якія трывала ўвайшлі ў культурнае жыццё Беласточчыны, зазначаючы нашую прысутнасць тут. Спявалі калектывы з Беластока, бельскія „Васілёчкі“, калектывы з Гайнаўкі, Рыбалаў, ну, і спяваў ды іграў любімец публікі, эстрадны калектыў „Дубіны“ на чале з Пятром Скепкам.



*Нястомныя: Сцяпан Копа (злева) і Юрый Налівайка.*

Не паражнавалі і нашы пісьменнікі. Ахвотных набыць для сваіх бібліятэк беларускія выданні нашага таварыства было шмат, а Сакрат Яновіч і Ян Чыквін падпісвалі іх усім жадаючым.

У вялізную скарбонку збіраліся таксама грошы на Беларускі музей у Гайнаўцы — прыярытэтную справу для БГКТ на даным этапе. Не жартачкі — адразу назбіралася 200 тысяч! І толькі адзін раз заўважыла я, як дзве панюсі, убачыўшы скарбонку, здзіўлена паціснулі плячыма.

Разглядаючыся па амфітэатры, Алесь Барскі ўсё не мог надзівіцца: „Ты скажы, колькі людзей сышлося!“ А яны ўсё ішлі і ішлі, быццам бы і не думаючы, што імпрэза можа калісьці скончыцца. Ішлі на сваё свята.

І калі на канец на сцэне паявіліся ўсе ўдзельнікі ўрачыстага канцэрта і зводны хор беларусаў з Беласточчыны, Гродзеншчыны і Злучаных Штатаў Амерыкі супольна заспяваў „Люблю наш край старонку гэту“, песню, якая ўжо сталася своеасаблівым гімнам тутэйшых беларусаў, усе прысутныя ўсталі і ўторылі артыстам.

Гэты спеў шырокім рэхам разліўся па наваколлі.

**Ада Чачуга**

**Фота Янкі Цялушэцкага**



*Спявае беластоцкі хор.*

Мікола Іваноў

## ДА ГІСТОРЫІ СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ

— 7 —

### II. Беларусізацыя

Працэс беларусізацыі 20-х гадоў, які, безумоўна, залажыў падставы фармавання сучаснай нацыянальнай свядомасці беларусаў, з'яўляўся канкрэтным праяўленнем ленінскай нацыянальнай палітыкі (нацыянал-нэпу) на Беларусі. Значэнне яе для поспеху працэсу станаўлення нацыянальнай свядомасці беларускага народа цяжка пераацаніць. Менавіта ў гэты перыяд дзякуючы мэтанакіраванай палітыцы савецкай дзяржавы адбыліся тыя неадваротныя змены ў нацыянальнай свядомасці народа, якія не ўдалося знішчыць ні сталінскім беспрыкладным тэрорам, ні брэжнеўскай грубай русіфікацыйнай палітыкай. Усяго толькі пяць гадоў (1925-1930 г.г.) актыўнага правядзення беларусізацыі ўсіх галін жыцця Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі дазволіі шматмільённым масам беларускага сялянскага і гарадскога насельніцтва пачуць сябе народам, які можа і павінен на роўных правах суіснаваць у Еўропе з іншымі народамі. Беларусы зразумелі, што іх мова можа шанавацца другімі народамі, і перш за ўсё рускім народам, што яна не з'яўляецца дыялектам рускай ці польскай моў, што на ёй могуць і павінны размаўляць дзяржаўныя і партыйныя дзеячы, вучоныя і пісьменнікі, артысты і вайсковыя. Народ пазнаў і ацаніў свайго нацыянальнага прарока, Янку Купалу, імя якога да рэвалюцыі было вядома толькі ў асяроддзі беларускіх адраджэнскіх дзеячоў і сярод абмежаванай колькасці адукаваных беларускіх сялян, чытачоў „Нашай Нівы“ і іншых беларускіх выданняў.

Ажыццяўленне гэтай палітыкі савецкай дзяржавы пачалося ў той момант, калі працэс фармавання і кансалідацыі беларускай нацыі яшчэ не завяршыўся, калі працэс абуджэння шырокіх мас беларускага народа да свядомага палітычнага жыцця даваў толькі першыя сціплыя парасткі. Трэба памятаць, што нягледзячы на надзвычай ахвярную і самаадданую дзейнасць першых беларускіх адраджэнцаў пачатку веку, адраджэнскія ідэі напярэдадні Вялікай рускай рэвалюцыі 1917 года не авалодалі шырокімі беларускімі масамі. „Наша Ніва“ з яе некалькітысячным тыражом была выданнем у значнай ступені элітарным, яно даходзіла і мела ўплыў на даволі абмежаваную частку беларускай нацыі. Тое самае датычыла і іншых беларускамоўных выданняў. Да беларусізацыі ў значнай меры абстрактным было і паняцце беларускай школы. Першыя школы з беларускай мовай навучання ўпершыню паўсталі ў навейшай гісторыі толькі ў другой палове 1915 г. у варунках нямецкай акупацыі на Віленшчыне і Гродзеншчыне. Яны былі з засцярогай і без выразнага энтузіязму сустрэты мясцовым беларускім насельніцтвам. Іх адкрыццё было магчыма, дзякуючы прыхільным адносінам нямецкіх акупацыйных улад да групы віленскіх беларускіх нацыянальных дзеячоў на чале з братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі. Немцы пачаткова свядома падтрымлівалі ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння, разлічваючы з яе дапамогаю нейтралізаваць уплыў польскага і рускага нацыяналізмаў на гэтых тэрыторыях. Як

# ЖЫЦЦЁ І ДЗЕЙНАСЦЬ АФАНАСІЯ ФІЛІПОВІЧА

**5** верасня споўніцца 341 год з дня трагічнай смерці Афанасія Філіповіча, беларускага рэлігійна-царкоўнага дзеяча XVII стагоддзя. Яго жыццё і дзейнасць прыпадае на бурны і драматычны перыяд у гісторыі беларускага і ўкраінскага народаў. Канец XVI і пачатак XVII ст.ст. гэта перыяд увядзення Брэсцкай уніі, час вялікіх грамадскіх патрасенняў і неафіцыйнай рэлігійнай вайны ў межах Вялікага княства Літоўскага і Польскай Кароны.

Афанасій Філіповіч нарадзіўся на Брэстчыне каля 1597 года. Стары горад Бярэсце быў на працягу стагоддзяў даволі важным адміністрацыйным і рэлігійным цэнтрам. Берасцейскія манастыры і храмы ўнасілі важны ўклад у духоўна-асветнае развіццё беларускага і ўкраінскага народаў.

У маладых гадах Афанасій Філіповіч, пабываўшы на двары гетмана літоўскага Льва Сапегі, спазнае ўсе „благадаці" дастатняга, дворскага жыцця. Але гэта не адпавядае яго жыццёвым амбіцыям. Бачыць ён і разумее, што вялікая пагроза павісла над родным народам. Пакідае ён двор Сапегі і ў 1627 годзе прымае манашаства ў Святадухаўскім манастыры ў Вільні. Некалькі разоў пераязджае ў розныя манастыры Беларусі і Украіны, дзе ўзбагачае сваю духоўнасць, набірае вопыту і ведаў.

У 1632 годзе Афанасій Філіповіч высвячаецца ў сан іераманаха і назначаецца намеснікам Дубайскага манастыра каля Пінска. Праз чатыры гады манастыр гэты па загаду канцлера літоўскага Радзівіла пераходзіць у рукі уніятаў. Ігумен Афанасій вымушаны перавесціся ў суседні Купяціцкі манастыр, які славіўся цудатворнай іконай Божай Маці. З Купяціч ён неўзабаве адпраўляецца ў Маскву, спадзеючыся на дапамогу праваслаўю з боку цара Міхаіла Фёдаравіча.

Пасля вяртання на Радзіму ў 1640 годзе Афанасій Філіповіч становіцца ігуменам Сімяонаўскага манастыра ў Бярэсці і разгортвае шырокую духоўную і асветніцкую дзейнасць.

У 1643 г. ігумен Афанасій едзе ў Варшаву на Сейм, у якім прысутнічаў кароль Уладзіслаў IV. Пры яго панаванні (параўноўваючы з крайнерэакцыйным перыядам у часы панавання Зыгмунта III Вазы) спакайней жылося праваслаўным. Ігумен Афанасій у сваім сеймавым выступленні раскрыў сапраўдныя мэты уніі і прадказваў, што далейшыя насільныя безадказныя дзеянні касцёла і яго паплечнікаў ствараюць вялікую пагрозу для будучыні „Рэчыпаспалітай двух народаў".

Спеласць яго выступлення ўстрывожыла сенатараў. Пад іх намаганнем кароль Уладзіслаў выдаў загад аб заключэнні смелага ігумена. Пасля здзекаў і амаль гадовага блукання па турмах Афанасій Філіповіч за дапамогаю мітрапаліта кіеўскага Пятра Магілы, вяртаецца ў Бярэсце, дзе зноў становіцца ігуменам.

Тут адбылося не адно здарэнне, што да глыбіні ўскалыхнула яго душою. Неспакойны па характары адпраўляецца ў 1644 г. у Кракаў да ваяводы Сапегі, фундатара Сімяонаўскага манастыра ў Бярэсці, каб там шукаць дапамогі праваслаўю. Але спаткала яго расчараванне. Сапега, па прыкладу Ходкевічаў, Агінскіх і іншых магнатаў, перайшоў на рымакаталіцтва.

У тым жа Кракаве Афанасій Філіповіч спатыкаецца з маскоўскімі пасламі, якія даследавалі справу Ілжэдзмітрыя. Паясняе ён паслам, што справа цара-самазванца была інтрыгай, падрыхтаванай езуітамі.

Пасля таго здарэння іг. Афанасій быў ізноў зняволены і ўкінуты ў турму. Але і там не парывае сваёй дзейнасці. Піша і перадае каралю Уладзіславу IV супліку з мемарыялам (памятную запіску). У супліцы даволі праўдзіва прадстаўляе гісторыю ўвядзення уніі і раскрывае яе мэты. Паказвае, як далёка рымакаталіцтва адыйшло ад канонаў агульнай царквы. Ігумен напамінае таксама каралю Уладзіславу аб абяцанні, дадзеным пры каранацыі — абараняць праваслаўных.

Супліку прачытаў кароль і сенатары. Дайшла яна і да касцельнай іерархіі. І хаця 3 лістапада 1645 г. кароль выдаў „універсальны лісток" на вольны выезд берасцейскаму ігумену з Варшавы, Афанасій Філіповіч не хутка вярнуўся на Радзіму. „Універсал", выдадзены каралём, устрывожыў езуітаў і яны напярэдадні выпуску на волю, выкралі Афанасія з варшаўскай турмы і перавезлі ў падвалы аднаго з кракаўскіх кляштараў.

Праз некалькі тыдняў пасля інтэрвенцыі расейскіх паслоў, яго перавозяць у Кіеў да мітрапаліта Пятра Магілы. Пры тым, аднак, абмяжоўваюць яму асабістую волю. У Кіеве піша Афанасій Філіповіч свой „Дыярыуш" — дзённік, шырока потым вядомы і каштоўны з гістарычнага пункту гледжання. Неўзабаве памірае мітрапаліт Пётр Магіла. Афанасій Філіповіч вяртаецца тады ў Бярэсце, ізноў прымае годнасць ігумена Сімяонаўскага манастыра.

Прыходзіць год 1648, пачынаецца паўстанне Багдана Хмяльніцкага. Дзяржаўныя і касцельныя ўлады пачалі рэпрэсіраваць праваслаўных, асабліва адукаваную іерархію. Ахвярай тае хвалі рэпрэсій стаў таксама Афанасій Філіповіч. У час, калі казакі наступалі на Замосць, яго абвінілі, што ён матэрыяльна і духоўна падтрымліваў паўстанцаў Хмяльніцкага.

1 ліпеня 1648 г. ён быў укінуты ў падвалы Берасцейскага ваеннага замка, дзе чакаў суда. Суд адбыўся ў першых днях верасня. Праўда і духоўная сіла былі на баку ігумена Афанасія, аднак ужо немагчыма было вырвацца з аковаў смерці. Засталося яму толькі заданне не менш важнае: абараняць сваю чалавечую годнасць. І ён да апошніх дзён жыцця, да смертнай казні непахісна трываў пры сваіх поглядах.

Афанасій Філіповіч загінуў ад дзвюх мушкетных куль наемных гайдукоў каля сяла Гершановічы пад Брэстам 5 верасня 1648 года.

Жыццё Афанасія Філіповіча гэта безупыннае змаганне за лепшую долю народа і яго будучыню. Ён не мог прымірыцца з фактам, „што няма Русі ў Русі". Ён не мог спакойна жыць, калі бачыў, што „Сьвятая царкоўная мова наша ў пагардзе, а тутэйшая руская — ў асьмяяньні!" Афанасій Філіповіч быў праваслаўнай царквой кананізаваны. З'яўляецца ён прыкладам станоўчасці ў ажыццяўленні сваіх чыстых ідэалаў.

**Мікола Сахарэвіч**

---

кожны традыцыйны акупант немцы паспрабавалі ў сваёй акупацыйнай палітыцы абапірацца на тую групу мясцовага насельніцтва, нацыянальныя імкненні якой былі найбольш сціплымі і у найбліжэйшай перспектыве не пагражалі бескантрольнаму нямецкаму панаванню на гэтых тэрыторыях.

На Беларусі да рэвалюцыі значна больш мацнейшымі і ўплывовымі аб беларускай нацыянальнай ідэі былі ідэі польскага крэсавага нацыяналізму ў заходняй частцы беларускай этнічнай тэрыторыі, вялікарускія ідэі на Усходзе і нават панукраізм на Палессі. Напомнім толькі, што падчас першых і бадай што адзіных дэмакратычных выбараў на Беларусі, выбараў ва Усерасійскі ўстаноўчы сход, якія адбыліся ў снежні 1917 г., беларускі нацыянальны спіс атрымаў па Мінскай губерні менш за 1% галасоў. І якімі б абставінамі не прабавалі мы сёння тлумачыць падобныя вынікі народнага волевыяўлення, гэтыя лічбы застанецца больш пераканаўчымі за самыя лепшыя довады.

А як ацаніць акт 25 сакавіка 1918 г.? Ці была ў яго сапраўды ўсенародная падтрымка? Праблема гэтая амаль абсалютна не даследавана ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі. У Савецкай Беларусі палітычныя абставіны дагэтуль не пазвалялі праводзіць праўдзівыя сумленныя даследаванні гэтай кардынальнай падзеі ў гісторыі беларускага народа. Але без перабольшвання, нават на падставе актуальнага стану нашых ведаў можна сцвярджаць, што абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі цалкам адпавядала аб'ектыўным нацыянальным імкненням беларускага народа, аднак не было вынікам шырокага волевыяўлення гэтага народа. Абвяшчэнне БНР — гэта вынік адпаведнага сплёту гістарычных абставін, вынік самаахвярных намаганняў і нават роспачы вядучых адраджэнскіх дзеячоў, якія з дапамогаю падобнага драматычнага і гучнага акта намагаліся гвалтоўна абудзіць свой народ і прыступіць да будаўніцтва сваёй беларускай нацыянальнай дзяржавы.

Вельмі спрэчны характар мае і абвяшчэнне 1 студзеня 1919 г. у Смаленску Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Вядома, што вядучыя партыйныя і савецкія дзеячы існаваўшай у той час так званай Заходняй Вобласці (А. Ф. Мяснікоў, В. Г. Кнорын, М. І. Калмановіч і інш.) рэзка выступалі супроць стварэння беларускай савецкай дзяржаўнасці, а ідэю існавання асобнага беларускага народа яны разглядалі ў якасці рэакцыйнай і шкоднай для перспектыў сусветнай рэвалюцыі. І толькі беспасрэднае рашэнне ЦК РКП (б) і дырэктыва самога Леніна прымусілі іх адмовіцца ад сваіх поглядаў. Для Масквы абвяшчэнне БССР было ў значнай ступені тактычнай мерай, накіраванай на процідзеянне ідэі БНР і на стварэнне буфернай савецкай рэспублікі, здольнай прыняць на сябе цяжар барацьбы з адроджанай польскай дзяржавай. Тактычны характар абвяшчэння беларускай савецкай незалежнасці выразна праявіўся ў такім знамянальным факце. Калі ў момант абвяшчэння БССР маніфест аб яе заснаванні акрэсліваў яе межы на падставе сапраўдных этнаграфічных дадзеных рассялення беларускай народнасці (БССР, як вядома, была абвешчана ў межах Мінскай, Смаленскай, Віцебскай, Магілёўскай і часткі Віленскай губерній са сталіцай у Смаленску), дык, калі пасля заканчэння грамадзянскай вайны палітычная кан'юнктура змянілася, беларусам выдзелілі толькі каля адной сёмай іх этнічнай тэрыторыі — шэсць няпоўных паветаў былой Мінскай Губерні. У такіх межах БССР існавала аж да 1924 г., да самага пачатку беларусізацыі.

Падобны кароткі агляд палітычных падзей беларускага нацыянальнага жыцця пераканаўча сведчыць аб тым, наколькі сціплымі былі нацыянальныя імкненні беларусаў і як лёгка было моцным сілам чужынцаў маніпуляваць гэтымі імкненнямі. Беларусізацыя ў гэтым сэнсе выразна выдзяляецца на фоне іншых падзей. Яна, на нашу думку, была адной з галоўных падзей XX стагоддзя ў нацыянальным жыцці беларусаў. Праведзеныя ў гэты перыяд шырокамаштабныя мерапрыемствы ў галіне фармавання нацыянальнай свядомасці беларусаў мелі беспаваротны характар. І за тое, што сёння мы можам гаварыць аб неабходнасці новага нацыянальнага адраджэння, што нам яшчэ ёсць што ратаваць, што дзякуючы гарбачоўскай перабудове ёсць магчымасць і рэальныя падставы для новай беларусізацыі, мы павінны быць глыбока ўдзячныя тым ахвярным беларускім адраджэнцам, што ажыццяўлялі беларусізацыю 20-х гадоў.

*(Працяг будзе)*



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

